**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 27 (795) 2 ліпеня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by


*Фота Ул. Скрабатуна.*

Традыцыйная 16-я сустрэча выпускнікоў Глыбоцкай педвучэльні.



## Прэзідэнцкія выбары ў Беларусі прызначаныя на 11 кастрычніка

Выбары прэзідэнта Беларусі пройдуць 11 кастрычніка 2015 г. Такое рашэнне прынята на пасяджэнні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі, якое завяршае працу сёмай сесіі.

*БелТА*

ISSN 2077-8023



Бешанковіцкі раён

# Каб памяталі нашчадкі

■ Станіслаў Раманчук.

**У розных кутках вobласці прайшлі ўрачыста-жалобныя мерапрыемствы з нагоды ўсенароднага Дня памяці ахвяр Вялікай Айчыннай вайны.**

Адпаведны мітынг адбыўся таксама ў лясным масіве ў Бешанковіцкім раёне, дзе вельмі шмат палягло савецкіх салдат у пачатку ліпеня 1941 года падчас жорсткіх баёў па абароне пераправы на рацэ Заходняя Дзвіна. У гэтым месцы на воднай граніцы з суседнім Шумілінскім раёнам адкрылі і помнік у гонар знайшоўшых тут сваю пагібель воінаў 186-й стралковай дывізіі. Іх разам з неабстрэлянымі курсантамі Лепельскага мінамётнага вучылішча кінула ў бой у паніцы савецкае камандванне пад напорам наступаючых нямецкіх войск. На нейкі час байцы стрымалі захопнікаў, але вельмі шмат салдат і афіцэраў, да 40 % асабовага складу чырвонаармейцаў загінула пад ўдарамі авіцыі і артылерыі немцаў. Ідэя ўвекавечыць іх памяць даўно турбавала мясцовага краязнаўца і майстра мастацкай коўкі Андрэя Трубяцкога. Намаганні ягоных аднадумцаў падтрымалі кіраўніцтва раёна, работнікі мясцовых прадпрыемстваў і арганізацый. У выніку на “Белкатламашы” вырабілі помнік у выглядзе вялізнага ствала вінтоўкі са штыком, было праведзена добраўпарадкаванне тэрыторыі, залілі фундамент, паклалі плітку, вырабілі памятную дошку. Сам майстар вырабіў прыгожую агароджу ля новага помніка на развілцы лясных дарог. Энтузіясты лічаць, што на гэтым не трэба спыняцца, у лесе ля Дзвіны патрэбна правесці пошукавыя работы, бо ў зямлі могуць быць астанкі многіх яшчэ невядомых байцоў, якія загінулі. Па ўспамінах старажылаў, тут былі вельмі жорсткія баі, салдатам удалося тады адбіць тры вельмі моцныя ўдары ворага.

Полацкі раён

# Падвяла прага нажывы

■ Чэслаў Якубовіч.

**У наш час красці сталі нават больш часта, чым у нядаўнім мінулым, аднак і зламыснікі пайшлі самыя розныя.**

Вось і ў Полацку вечарам 35-гадовы мясцовы беспрацоўны рашыўся на адчайны крок. Каля васьмі гадзін вечара ён убачыў незачыненыя дзверы аднаго з кіёскаў “Віцебскаблсаюздруку” і з нажом прайшоў туды. Пад пагрозай прымянення сілы раней судзімы гараджанін забраў грашовую выручку ў суме 4 млн. рублёў і паспрабаваў уцячы. Аднак міліцыя неўзабаве змагла адшукаць і затрымаць мужчыну, які ўжо сядзеў у турме за крадзяжы і за незаконны абарот наркотыкаў і куды неўзабаве зноў адправіцца за разбойнае нападзенне. А вось у суседнім Наваполацку ўжо пазбавілася нажытай маёмасці намеснік галоўнага бухгалтара адной з гарадскіх устаноў адукацыі. Гэта жанчына прыдумала іншы спосаб лёгкага абагачэння і на працягу амаль 3-х гадоў пакрыху змяншала памеры заробкаў сваіх калег пры прадастаўленні электронных ведамасцей у банк. Тыя невялікія ўкрадзеныя сумы злодзей-фінансіст акуратна дабаўляла на сваю асабістую банкаўскую картку. За некалькі гадоў такім чынам было прысвоена 13,3 млн. чужых грошай, а афёра выявілася пасля расследавання супрацоўнікаў аддзела АБЭЗ мясцовай міліцыі. У выніку жанчыну адразу звольнілі з працы, ёй прыйшлося кампенсаваць поўнасцю матэрыяльны ўрон. Акрамя гэтага суд пакараў кабінетнага злодзея 3 гадамі пазбаўлення волі, праўда, з адтэрміноўкай прыгавору. Аднак у бліжэйшы час на працу, звязаную з гаспадарчай і фінансавай дзейнасцю, яе нікуды не возьмуць.

Пастаўскі раён

# Касіць не развучыліся

■ Кастусь Александровіч

**За чвэрць стагоддзя музычны фестываль на Пастаўшчыне стаў не толькі святам народных талентаў, але і спрыяў адраджэнню культуры і традыцый нашых продкаў.**

Таму невыпадкова падчас разнастайных культурных падзей у раёне сталі праводзіць адкрыты чэмпіянат па ручной касьбе траў. Днямі ў ваколіцах вёскі Жылінскія паблізу прыгожага возера Лучай ён прайшоў у чацвёрты раз і сабраў 26 спрактыкаваных касцоў не толькі са свайго раёна, але і з гарадоў і мястэчак Віцебскай і Мінскай абласцей. Сярод іх быў і адзін мінчанін, а таксама пяцёра жанчын. Перад тым, як у 6 гадзін раніцы тут зазвінелі косы, артысты ў нацыяльных касцюмах натхнілі ўдзельнікаў забаўляльнай праграмай, а ініцыятар першынства, мясцовы ўраджэнец і прадпрымальнік з Полацка Пётр Кароль аб'явіў умовы сапернiцтва на працягу 5 гадзін і ўнушальны прызавы фонд. Увогуле да 11 гадзін раніцы спрытныя касцы паклалі травы ў пакосы на плошчы 4 гектараў, нядрэнную выручку паказаў самы юны ўдзельнік 15-гадовы Вадзім Дубіновіч з вёскі Мягуны, што на Камайшчыне. Пакуль журы ацэньвала скошаныя ўчасткі, касцы і госці свята сенакосу памыліся ў выцепленай лазні, пабывалі ў музеі старажытных рэчаў на мясцовай аграсядзібе, а потым смачна паабедалі на свежым паветры, як калісьці нашы продкі за адным вялікім сталом. Пераможцамі чэмпіянату касцоў прызналі 49-гадовага пастаўчаніна Валерыя Каліцкага з вынікам 31,1 соткі і ваеннага повара з райцэнтра Тацціяну Лешчык сярод жанчын. Усе касцы атрымалі розныя падарункі, а самыя лепшыя паедуць на міжнародныя спаборніцтвы касцоў, дзе летась пастаўчане ў Еўропе камандай сталі другімі.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 2.07.15 | | | | Пятніца 3.07.15 | | | | Субота 4.07.15 | | | | Нядзеля 5.07.15 | | | | Пан. 6.07. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць / Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +15 | +17 | +22 | +20 | +15 | +20 | +26 | +23 | +16 | +23 | +28 | +24 | +19 | +23 | +27 | +23 | +18 | +24 | +31 |
| Ціск | 753 | 755 | 756 | 757 | 757 | 758 | 757 | 757 | 757 | 756 | 755 | 752 | 751 | 750 | 750 | 750 | 749 | 749 | 747 |
| Вецер м/сек | 3 Пн | 5 Пн | 6 Пн | 3 Пн | 3 Пн-З | 3 Пн-З | 7 Пн-З | 4 Пн-З | 2 З | 3 З | 7 З | 4 З | 3 З | 1 Пн | 4 Пн-З | 2 Пн-З | 2 Пд-З | 3 Пд-З | 5 З |
| Вільготнасць | 85 | 80 | 37 | 58 | 85 | 74 | 48 | 62 | 85 | 71 | 44 | 62 | 85 | 76 | 39 | 66 | 88 | 67 | 39 |

# Аб самым надзённым

## АДНАБАКОВАЯ АРЫЕНТАЦЫЯ НА ЎСХОД УЖО ПРЫВЯЛА Ў ПАЧАТКУ ЛЕТА БЕЛАРУСКУЮ ЭКАНОМІКУ ДА САПРАЎДНАЙ РЭЦЭСІІ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Тое, што эканамічная сітуацыя ў Беларусі складаная, засведчылі дзве нядаўнія нарады на вышэйшым узроўні ў Мінску па праблемах у мадэрнізаванай дрэваапрацоўцы і праз дзень па пераадоленні негатыўных тэндэнцый развіцця буйных машынабудаўнічых прадпрыемстваў МАЗ, БелАЗ, МТЗ, “Гомсельмаш” і іншых.**

Толькі, напэўна, сляпы чалавек сёлета не бачыць, што, як быццам той снежны ком, ужо каторы месяц запар у Беларусі павялічваюцца эканамічныя цяжкасці. А ў пачатку лета дасведчаныя спецыялісты пацвердзілі, што ў нашу крану прыйшла новая горкая рэальнасць: не міфічная, а рэальная рэцэсія. Гэта паняцце азначае, што ў дзяржаве пачынаецца рэцэсія эканомікі, калі на працягу паўгода там пагаршаецца эканамічная сітуацыя і падаюць аб’ёмы вытворчасці разам са зніжэннем валавага ўнутранага прадукту. Дарэчы, у нас падобныя працэсы сталі назірацца яшчэ летась, напрыканцы года, калі ў снежні адбылася чарговая дэвальвацыя беларускага рубля.

З таго часу месяц за месяцам фіксавалася падзенне аб’ёмаў вытворчасці і наадварот раслі запасы непрададзеных выраблених айчынных тавараў. І ўжо ў маі не мелі збыту беларускія машыны, трактары, станкі, бытавая тэхніка, мэбля, адзенне, абутак і іншыя тавары, прадукты харчавання на гіганцкую суму звыш 38 трыльёнаў рублёў (82 % да сярэднямесячнага аб’ёму выпуску). І не дзіўна, што на фоне новага аслаблення расійскага рубля зноў прасела і наша нацыянальная валюта. На біржавых таргах наш “зайчык” зноў “аслабеў” і ягоны курс пераадолеў псіхалагічную мяжу 15500 – 17000 у адносінах адпаведна долара і еўра.

Адначасова сусветныя СМІ паведамілі, што Беларусь разам са сваімі суседзямі Расіяй і Украінай, занятымі гібрыднай вайной паміж сабой, увайшлі ў дзясятку краін свету, дзе найгоршая эканамічная сітуацыя цяпер. Дарэчы, з пачатку года невыпадкова ў Беларусі страты суб’ектаў гаспадарання ў студзені-красавіку выраслі ў 1,5 раза. Ва ўрадзе нашай краіны ўжо адкрыта прызнаюць, што айчынная эканоміка перайшла з непрыемнай фазы стагнацыі (лічы застою) у яшчэ больш трывожны працэс рэцэсіі, які называюць перыядам зацяжнога падзення вытворчасці.

Не трэба быць вялікім эканамістам, каб ведаць, што ўслед за гэтым адбудзецца непазбежнае падзенне ВУП. І толькі можна гадаць зараз, якім у канцы года будзе памер беспрацоўя ў Беларусі. Стан беларускай эканомікі ў рашаючай ступені залежыць ад становішча спраў у эканоміцы суседняй Расіі. Там упраўленцы прама кажуць, што спатрэбіцца 2-3 гады, каб выйсці з няпростай сітуацыі, у якую трапіла гіганцкая па памерах дзяржава дзякуючы рэваншысцкай палітыцы крамлёўскага палкоўніка Пуціна. Расійскаму прэзідэнту прыйшло ў галаву, што геапалітычныя праблемы з суседзямі можна ў XXI стагоддзі вырашаць з дапамогай ваеннай сілы і вераломна перакройваць граніцы.

Што нам з таго, што рускія не спыніліся анексіяй Крыма і палезлі яшчэ на ўсход Украіны, ганебна хлусяць усяму свету, што на Данбасе іх войск няма. Расія, на жаль, у многім стала нагадваць даваенную Германію і атрымала па поўнай праграме гонку ўзбраенняў, міжнародную ізаляцыю і жорсткія санкцыі, якія балюча ўдарылі па простым бедным народзе. А Беларусь атрымала істотнае зніжэнне аб’ёмаў валютнай выручкі на сваім галоўным рынку збыту (у мінулым годзе нашы страты ў Расіі склалі 3,3 трлн. рублёў).

Тым часам вядучыя дзяржавы свету на сваёй апошняй сустрэчы ў Германіі пацвердзілі, што адмяняць свае эканамічныя санкцыі супраць РФ не будуць з-за невыканання Крамлём мінскіх дамоўленасцей па нармалізацыі абстаноўкі ў Данбасе. Дарэчы, улады ЗША таксама прадоўжылі яшчэ на 1 год санкцыі супраць асобных дзеячаў беларускага ўрада і іншых асоб, датычных да “парушэнняў правоў чалавека”, якія былі ўведзены яшчэ ў 2006 годзе. Тое, што эканамічная сітуацыя ў Беларусі складаная, засведчылі дзве нядаўнія нарады на вышэйшым узроўні ў Мінску па праблемах у мадэрнізаванай дрэваапрацоўцы і праз дзень па пераадоленні негатыўных тэндэнцый развіцця буйных машынабудаўнічых прадпрыемстваў МАЗ, БелАЗ, МТЗ, “Гомсельмаш” і іншых.

Аднымі разборкамі і загадамі зверху выпрацаваць гібкія меры рэагавання на трывожныя выклікі і пагрозы, на жаль, сітуацыю цяжка папраўіць. Расія “прасела” сур’ёзна і надоўга, а вось выйсці на іншыя рынкі збыту ў Афрыку, Лацінскую і Цэнтральную Амерыку ў такой жа ступені не адразу атрымаецца, хоць такія спробы ёсць і беларускі экспарт туды стаў пакрыху расці. У выніку сёлета паўсюдна ў Беларусі, за выключэннем Мінскай вобласці, назіраецца адчувальнае падзенне валавага рэгіянальнага прадукту. Найбольш істотны такі спад на Віцебшчыне, нават амаль на 6 %, а за гэтымі лічбамі няпростая абстаноўка ў канкрэтных вытворцаў у глыбінцы. Беларусаў стала выручаць праца за мяжой, адкуль яны летась пералічылі толькі з Еўропы звыш 1 мільярда заробленых долараў, а вось прыцягальнасць працы ў Расіі зменшылася з-за падзення там у разы заробкаў у валюце.

## Дзень за днём

**На многіх айчынных прадпрыемствах пагоршылася эканамічнае становішча. Прамысловая вытворчасць за 5 месяцаў знізілася ў Беларусі на 7,7 %, а выраб машын і абсталявання – на трэць. Беларусы, якія працавалі летась у Еўропе, прыслалі на радзіму 1 мільярд долараў. АБСЕ чакае, што выбары ў Беларусі пройдуць па міжнародных стандартах. Для беларускіх абітурыентаў увялі падзел на профільныя і няпрофільныя прадметы. Крыху больш 100 тысяч чалавек здалі ЦТ па паступленні ў ВНУ і ССНУ краіны.**

# Важнейшыя навіны свету

**Францыя.** Паліцыя краіны ўслед за Бельгіяй пачала арышты рахункаў і маёмасці расійскіх кампаній і ўстаноў за мяжой па судовым іску былых акцыянераў кампаніі ЮКАС.

**Украіна.** Упершыню ў Данецку жыхары на стыхійным мітынгу запатрабавалі ад баевікоў спыніць абстрэлы, главар "ДНР" заявіў, што рэгіён ніколі не ўвойдзе ў склад Украіны.

**Расія.** Зараз наступае, як заявіў дэкан эканамічнага факультэта МДУ, прафесар А. Аўзан, клінічная смерць расійскай эканомікі, бо яе сур'ёзныя праблемы пачаліся з 2011 года.

**ЗША.** Пастаянны прадстаўнік пры ААН С. Паўэр заявіла, што амерыканцы з Еўропай паспрабуюць ізаляваць настолькі Расію, каб Пуцін змяніў сваю палітыку ва Украіне.

**Польшча.** Камандуючы сухапутнымі войскамі ЗША ў Еўропе Бен Ходжэс пацвердзіў аб размяшчэнні 220 найноўшых танкаў і бронемашын на ўсходніх граніцах ЕС.

**Францыя.** Пасля рашэння Расіі не выконваць рашэнні Еўрапейскага суда па правах чалавека Савет Еўропы можа выключыць РФ з ліку членаў гэтай арганізацыі.

**Ватыкан.** Больш чым на гадзіну зноў спазніўся рускі прэзідэнт У. Пуцін на сустрэчу з Папам Рымскім Францыскам, дзе пантыфік заклікаў РФ імкнуцца да міру ва Украіне.

**Йемен.** У выніку атакі амерыканскага беспілотніка знішчылі главара групоўкі тэрарыстаў "Аль-Каіды" на Аравійскім паўвостраве Насіра аль-Вахішы, ён заклікаў караць хрысціян.

**Егіпет.** Суд у Каіры пацвердзіў вынесены ў маі смяротны прыгавор экс-прэзідэнту М. Мурсі па справе аб масавых уцёках з турмаў падчас "арабскай вясны".

**Літва.** Урад краіны павысіў у трэці раз з 2012 года мінімальную зарплату для літоўцаў да 325 еўра ў месяц, на гэтыя мэты з дзяржбюджэту накіравалі 14,5 млн. еўра.

**ЗША.** За 1,5 года да выбараў аб удзеле ў прэзідэнцкай гонцы заявіў 62-гадовы былы губернатар Фларыды Джэб Буш, ён абяцае спыніць агрэсіўную палітыку Пуціна.

**Расія.** У І-м квартале года колькасць жабракоў у краіне з даходамі ніжэй пражыццёвага мінімуму вырасла яшчэ на 3,1 мільёна і дасягнула амаль 23 мільёнаў чалавек без уліку Крыма.

**Грузія.** Краіна аб'явіла жалобу па 19 загінулых у выніку моцнай паводкі ў Тбілісі пасля ліўняў, шмат было разбурана будынкаў, загінула большасць жывёл у заапарку.

**Расія.** Даўгі горна-металургічнай кампаніі "Мечэл" з 70 тысячамі працоўных перавысілі 7 мільярдаў долараў, ад поўнага краху фірму Ігара Зюзіна выратоўвае заступніцтва Крамля.

**Італія.** На ІІІ Сусветных духоўных практыках для святароў Папа Францыск паведаміў, што Ватыкан гатовы да таго, каб усе хрысціяне свету святкавалі Вялікдзень у адзін дзень.

# Для крамаў, рынкаў і таксі перанеслі тэрміны ўстаноўкі плацёжных тэрміналаў



■ FINANCE.TUT.BY

**Індывідуальным прадпрымальнікам, якія аказваюць паслугі ў Мінску і абласных цэнтрах, перанеслі тэрміны ўстаноўкі плацежных тэрміналаў. Абсталяваць кожную касу прыладай яны павінны не з 1 ліпеня гэтага года, як планавалася раней, а з 1 студзеня 2016 года, паведамляе Мінгандлю.**

«Саветам міністраў падтрымана прапанова Міністэрства гандлю аб пераносе тэрмінаў ўстаноўкі індывідуальнымі прадпрымальнікамі плацежных тэрміналаў у гандлёвых аб'ектах, размешчаных у гарадах абласнога падпарадкавання і Мінску, да 1 студзеня 2016 года. Адпаведнае пастанова ўступае ў сілу пасля яго афіцыйнага апублікавання», - заявілі ў Мінгандлі.

Нагадаем, з 21 мая мінулага года ў Беларусі пашырылі спіс аб'ектаў гандлю і паслуг, якім трэба абсталяваць кожную касу плацежным тэрміналам. Да буйных крамаў дадаліся таксі, чыгуначныя станцыі (пры абслугоўванні больш за 250 пасажыраў у суткі і наяўнасці лініі сувязі), гандлёвыя павільёны і шапікі на рынках, базы адпачынку, санаторыі, аздараўленчыя цэнтры, дыягнастычныя станцыі. Усталяваць абсталяванне, як планавалася, трэба да 1 ліпеня гэтага года.

У гэтай сітуацыі іпэшнікі дамагаліся пераносу тэрмінаў абавязковай устаноўкі плацежных тэрміналаў. З-за 143 указа прэзідэнта, які дазваляе прадаваць рэшткі тавараў легпрама без дакументаў да 1 студзеня 2016 года, многія з іх плануюць зачыняцца да канца гэтага года. З-за гэтага прадпрымальнікі дамагаліся таго, каб тэрмін абавязковай устаноўкі плацежных тэрміналаў перанеслі на паўгода. Ініцыятыву падтрымаў Мінгандлю, які папрасіў Саўмін перанесці дэдлайн па ўстаноўцы абсталявання на 1 студзеня 2016 года.

З аналагічнай прапановай Мінгандлю звяртаўся раней у Нацбанк, Мінэканомікі і МПЗ. «У Нацбанку заявілі, што не пярэчаць супраць пераносу тэрмінаў. У Мінэканомікі лічаць, што змяняць тэрміны ўстаноўкі абсталявання немэтазгодна, таму што норма была прынятая яшчэ ў мінулым годзе, таму было дастаткова часу для набыцця абсталявання ўсімі суб'ектамі гандлю», - казала начальнік упраўлення арганізацыі гандлю і паслуг Мінгандлю Віялета Бразоўская.

Нагадаем, з 1 студзеня 2016 года аплатныя тэрміналы павінны быць устаноўлены ў гарадах раённага падпарадкавання, а з 1 ліпеня 2017 г. - па ўсёй краіне.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Дырэктар даследчага цэнтра ІПМ А. Чубрык пацвердзіў, што да канца года рост спажывецкіх цэн можа скласці 16-20 %, калі захаваецца макраэканамічная сітуацыя.

**Светлагорск.** Дырэкцыя машынабудаўнічага завода папрасіла Мінпрам Беларусі вывесці яго з холдынга "Гомсельмаш", бо гамяльчане вырашылі замест завода пакінуць цэх.

**Маладзечна.** У кошт заробкаў сталі карміць рабочых завода металаканструкцый у заводскай сталовай, даўгі па зарплаце па 2 месяцы, заказаў у заводчан мізер.

**Гродна**. Міліцыя вобласці сумесна з калегамі з Расіі выявіла і перакрыла буйны канал паставак і збыту ў Беларусі падробнага расійскага алкаголю з Маскоўскай вобласці.

**Мінск.** Старшыня КДБ В. Вакульчык паведаміў аб арышце 6 чалавек упраўленцаў па справе "Мотавела", там колькасць працоўных скарацілі з 2,5 тысяч да 179 чалавек.

**Гомель.** Следства сабрала доказы, што бацькі наўмысна двойчы пакідалі без догляду адных сваіх немаўлят, каб тыя памерлі ад голаду, справу нелюдзяў перадалі ў суд.

**Мінск.** Экс-кандыдат у прэзідэнты, кандыдат эканамічных навук В. Цярэшчанка заявіў, што краіна згубіць яшчэ 5 гадоў, калі на выбары не заявіцца нармальны чалавек.

**Ліда.** Холдынг "Верталёты Расіі" паставіць на авіябазу ў 2016-2017 гадах 12 ваенна-транспартных верталётаў Мі- 8МТВ-5 зборкі Казанскага верталётнага завода.

**Брэст.** Падчас службовага палёту па выяўленні пажараў у экасістэмах паблізу абласнога цэнтра днём разбіўся самалёт Іл-103 РУП "Беллесавія", загінулі абодва пілоты.

**Мінск.** Кіраўнік аналітычнага цэнтра "Стратэгія" Л. Заіка паведаміў, што па ўзроўні даходаў беларусы наблізіліся да ўзроўню Зімбабве, а ўжо 50% заробкаў ідзе на ежу.

**Столін.** З-за лясных пажараў на плошчы 100 гектараў загарэўся былы ваенны палігон на тэрыторыі раёна, адбылося 7 выбухаў боепрыпасаў, пацярпелых не аказалася.

**Пінск.** Суд прызнаў 65-гадовага былога дырэктара школы мастацтваў вінаватым у гвалтоўных сэксуальных дзеяннях да вучаніц і пакараў 10 гадамі зняволення.

**Мсціслаўль.** Больш 20 рыцарскіх клубаў сабраў у райцэнтры фестываль сярэднявечнай культуры на Замкавай гары, на ёй асвяцілі часоўню ў гонар мясцовага князя.

**Гомель.** З-за 17 тарфяных і лясных пажараў у Хойніцкім, Лельчыцкім раёнах і ў нацпарку "Прыпяцкі" моцны смог у паветры ад такіх узгаранняў дасягнуў абласнога цэнтра.

**Будслаў.** На штогадовы фэст да заступніцы Беларусі – Маці Божай Будслаўскай прыйшла група пілігрымаў з Брэста, якая пешшу за 16 дзён прайшла адлегласць 537 км.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Орша.** Унікальныя на постсавецкай прасторы шліфавальныя станкі-паўаўтаматы з лічбавым праграмным кіраваннем пачалі выпускаць на станкабудаўнічым заводзе.

**Паставы.** Сыр "Беларускае золата" мясцовага малочнага завода стаў пераможцам у Мінску нацыянальнага конкурсу-дэгустацыі "Чэмпіён смаку" і атрымаў Гран-пры.

**Віцебск.** Дырэкцыя фестывалю мастацтваў "Славянскі базар" паведаміла, што на яго канцэрты прадалі больш паловы білетаў, хоць самы танны квіток каштаваў 65 тысяч.

**Полацк.** Следчыя змаглі адшукаць і затрымаць трэцяга фігуранта па справе выкрадання і забойства ў лясным масіве 29-гадовага хлопца, злачынца спачатку здолеў схавацца.

**Мёры.** Пасля некалькіх тыдняў прастою калектыў швейнага філіяла ВА "Віцябчанка" ў Дзісне атрымаў заказы на пашыў калекцыі адзення "Лета-2015" і куртак для Францыі.

**Докшыцы.** Група з 22 нямецкіх студэнтаў, бакалаўраў і магістраў універсітэта з горада Грайфсвальд (Германія) прайшла вытворчую практыку ў Бярэзінскім запаведніку.

**Руба.** З мэтай захавання рыбных рэсурсаў да 9 красавіка 2017 года ўвялі забарону на лоўлю рыбы на Заходняй Дзвіне ад плаціны Віцебскай ГЭС на адлегласці 800 метраў.

**Ушачы.** Хоць свабодных вакансій для працаўладкавання па раёне стала меней 30, КУСГП "Глыбачаны" не можа знайсці працаваць чатырох асноўных спецыялістаў, галоўнага агранома.

**Гарадок.** У раённым цэнтры правялі VІІ раённае свята народнай творчасці, паэзіі і фальклору "Гарадоцкі Парнас-2015", дзясяткі гараджан чыталі са сцэны паэму "Тарас на Парнасе".

**Глыбокае.** Не толькі ў райцэнтры, але і іншых мястэчках, якія ўваходзяць у Полацка-Глыбоцкую епархію, пабывала святыня – адроджаны крыж Еўфрасінні Полацкай.

**Дуброўна.** Пенсію па інваліднасці ў памеры 1,1 мільёна рублёў стаў атрымоўваць 12-гадовы хлопчык, які страціў руку з-за дрэнна накладзенага гіпсу і цяпер носіць пратэз.

**Віцебск.** Амаль 500 воінаў-навабранцаў 103-й гвардзейскай асобнай мабільнай брыгады на плошчы Перамогі прынялі ва ўрачыстай абстноўцы ваенную прысягу.

**Браслаў.** На другім па глыбіні ў Беларусі возеры Рычы будуць вучыць пачынаючых беларускіх дайвераў тэхніцы пагружэння, бо тут добрая бачнасць у вадзе і пясчанае дно.

**Шаркаўшчына.** Жыхару райцэнтра Уладзіміру Юдашу вельмі пашчасціла на рыбалцы, удалося на вуду злавіць на рацэ Дзісна гіганцкага карпа вагой аж 10 кілаграм.

**Віцебск.** Яшчэ адна выхаванка абласнога вучылішча алімпійскага рэзерву Анастасія Міхаленка заваявала 2-е месца на чэмпіянаце свету па цяжкай атлетыцы сярод юніёраў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Уладзімір Скрабатун

# Часлава Хрол: – Бачу – сцяна! Дык гэта ж – людзі! Ні пачатку, ні канца ім няма!

З нападам гітлераўскай Нямеччыны на Савецкі Саюз 22 чэрвеня 1941 года органы НКВД правялі зачыстку тэрыторый, якія, меркавана, будуць акупаваныя агрэсарам, ад "нядобранадзейных элементаў". Не абмінула зачысткі і Глыбоччына. Зачыстка была працягам рэпрэсій, якія тут распачаліся яшчэ пасля 17 верасня 1939 г. Хто гэтыя "нядобранадзейныя элементы"? Настаўнікі, лекары, архітэктары, леснікі, суддзі, колішнія супрацоўнікі польскай адміністрацыі, члены кампартыі Заходняй Беларусі…

– А камуністаў за што?– запытаецe. Тут вельмі трапна падыходзіць прымаўка – "За что боролись, на то и напоролись!" З першых дзён савецкай улады камуністы зразумелі, што былі адурманеныя савецкай прапагандай. Высылкі ў Сібір, расстрэлы ні ў чым не вінаватых людзей! З другога боку – новая савецкая ўлада не давярала заходнебеларускім камуністам, бо лічыла, што змагаліся яны з польскай уладай не за ідэю, а за савецкія грошы, якія ім некалі шчодра плацілі.

Бацька жыхара Глыбокага Вячаслава Сташкевіча – Цімафей – працалюбівы селянін, патрапіў пад зачыстку толькі за тое, што ў часе Першай сусветнай вайны працяглы час быў у нямецкім палоне і добра валодаў нямецкай мовай.

Калону арыштантаў гналі з боку Шаркоўшчыны на Беразвечча. У гэтую калону далучылі і легендарнага лекара Міхала Алехну-Гушчу з Патупаў, якога шмат хто лічыць правобразам доктара Рафала Вільчура, які стварыў глыбоцкі пісьменнік Тадэвуш Далэнга-Мастовіч, вядомы нам усім па фільме "Знахар". Гушча быў інвалідам, меў пратэз адной нагі, але і яго палічылі небяспечным, пагрузілі на фурманку. Пад зачыстку патрапіў і не менеј легендарны лекар з Лужак – Уладзіслаў Шыран, свядомы беларускі патрыёт, але наіўны прыхільнік савецкай улады.

Вось так, нібыта, савецкая ўлада і прынесла 17 верасня 1939 года шчасце і вызваленне заходнім беларусам ад "польскага ярма", але сама савецкая ўлада ў гэтым, чамусьці, сумнявалася. Усе гэтыя арыштанты, па меркаванні савецкай улады, пад акупацыяй, гіпатэтычна, могуць перайсці на бок немцаў, верна ім служыць.

Па адной з версіяў, усіх сабраных у Беразвеччы мусілі пагрузіць у эшалоны на станцыі ў Глыбокім і вывезці далей на ўсход Савецкага Саюза. Вайна ж пачалася! Патрэбныя шматлікія працоўныя рукі ў тыле...

Як апавядаў старажыл **Пётр Вярцінскі** аўтару гэтых радкоў, – калону арыштантаў гналі па вуліцы Маскоўскай. Жыхарам загадалі зашторыць нацёмна вокны, а самім не выходзіць і не назіраць. Аднак паступіла паведамленне, што рух эшалона не магчымы, немцы разбамбілі вузлавую станцыю ў Крулеўшчыне.

Вось так сталася, што калона арыштантаў пад 2000 чалавек мусіла рушыць пешшу ў свой апошні шлях па Дарозе Смерці Беразвечча-Ула[1].

Першымі ахвярамі Дарогі Смерці сталіся вязні, якія доўгі час знаходзіліся ў зняволенні. Яны не маглі ісці, бо былі знясіленыя доўгімі катаваннямі ў беразвецкай турме НКВД. Яны засталіся ляжаць застрэленымі ў равах і на адхонах Дарогі Смерці. Дарогу маглі адолець толькі нядаўна арыштаваныя, якія патрапілі пад зачыстку ў першыя дні пачатку вайны.



Часлава Браніславаўна Хрол, 1926 г.нр, вёска Хралы. 15-гадовай дзяўчынкай выпадкова напаткала калону вязняў на Дарозе Смерці Беразвечча-Ула. *Фота Ул. Скрабатуна.*

У вёсцы Хралы, дзякуючы мясцоваму краязнаўцу Віктару Жаваранку, мы сустрэліся са сведкам тых падзеяў – Чаславай Браніславаўнай Хрол.

*– Гадоў пятнаццаць мне было... Такое ж лета, як і сёння. 25 чэрвеня. Каласілася жыта! Я пайшла да цёткі ў вёску Шо. Было апоўдні, недзе а 12-й дня.*

*Раптам, бачу, наперадзе – чорная сцяна! Прыгледзілася, дык гэта ж – людзі. Ідуць, бразгаюць кандаламі[2] на нагах. Так шчыльна адзін да аднога, што руку не прасунуць між імі! Я стаяла і глядзела. Шлі арыштанты, уздоўж калоны – канваіры з карабінамі і сабакамі. Ні пачатку калоны, ні яе канца я не бачыла. Яна рухалася на Кублічы.*

*– Уходи!– раптам грозна крыкнуў на мяне канваір, накіраваўшы карабін. Я спалохалася і пайшла далей да цёткі ў вёску Шо. Што ўбачыла, не асмелілася апавядаць нават родным...*

*Потым мы дачуліся, што гэтых няшчасных расстралялі ля мястэчка Ула і вада ў рацэ была чырвоная ад крыві...*

Над калонай вязняў ужо лёталі нямецкія самалёты. Усё добра бачна з вышыні: калона вязняў, канваіры з карабінамі і сабакамі. Вядуць жа, імаверна, "ворагаў савецкай улады"!



Дарога на Кублічы ля вёскі Хралы – Дарога Смерці Беразвечча-Ула. Мясцовы краязнаўца Віктар Жаваранак: "Там, на даляглядзе, вышка бачная, гэта і ёсць Кублічы. Па гэтай дарозе 25 чэрвеня 1941 года ішлі ў свой апошні шлях вязні беразвецкай турмы НКВД". *Фота Ул. Скрабатуна.*

[1] лічыцца, што канцовай мэтай канваявання арыштантаў мусіў быць Віцебск, дзе іх меркавалася пагрузіць у эшалоны.

[2] хіба што не ўсе маглі быць у кандалах, а толькі схільныя да пабегу.

**Алесь Касцень** у артыкуле «Беразвецкі манастыр: калі б сцены маглі гаварыць...» («Звязда», 19 снежня 1992 г.) прыводзіць успаміны **Фердынанда Гайковіча** з Глыбоччыны, які быў сярод вязняў. *«Каля Дзвіны,* – прыгадваў той, — *над калонай сталі кружыць нямецкія самалёты. Лётчыкі, відаць, доўга не маглі зразумець, што гэта такое. Але потым зразумелі. У ахоўнікаў (з НКВД) верх фуражак быў чырвоны. Немцы здагадаліся, што гэта гоняць зняволеных. І пачалі планіраваць над калонай. Стралялі з кулямётаў, так трапна, што забівалі толькі ахоўнікаў. Чарга – і бачым: яшчэ адна чырвоная фуражка пакацілася па пяску. Тут яны і прынялі рашэнне расстраляць вязняў, бо баяліся, што разбягуцца».*

На другім беразе Дзвіны – вёска Мікалаёва.

**Ірына Жарнасек** запісала ўспаміны мясцовай жыхаркі **Разаліі Барысевіч:**

*"Як толькі калону прагналі цераз мост, яго ўзарвалі, а вязням загадалі легчы на зямлю. Некаторыя з іх здагадаліся пра задуманую расправу, кінуліся ўцякаць. Іх даганялі кулі...*

*У небе над Мікалаёвым праляцеў нямецкі самалёт і скінуў за вёскай бомбы. Зямля здрыганулася, у вокнах хатаў пасыпаліся шыбы..."*

Разалія ляжала ў канаве, заціснуўшы вушы, — дрыжэла ад страху. Над галавой свісталі кулі, стракацелі кулямёты. Крыкі, енкі, плач узвіліся ў неба. Канваіры расстрэльвалі вязняў — іхняя дарога скончылася. Брахалі сабакі, уздоўж калоны бегалі жонкі канваіраў і крычалі мікалаеўцам, каб не баяліся, бо іх, маўляў, ахоўнікі правапарадку не зачэпяць, бо невінаватых яны не страляюць. Чым жа былі вінаватыя тыя, чыя кроў лілася ракою на мікалаеўскую зямлю, ніхто не казаў. На вачах мікалаеўцаў чынілася адно з самых жорсткіх беззаконняў, чынілася вялізнае злачынства.

Стралянiна нарэшце аціхла, толькі зрэдку чуліся цяпер адзінокія стрэлы па тых, хто яшчэ спрабаваў ратавацца ўцёкамі. А на тым месцы, дзе яшчэ нядаўна былі жывыя людзі, цяпер ляжалі мёртвыя альбо раненыя целы вязняў. Канваіры хадзілі цяпер паміж сваімі ахвярамі, штыкамі дабівалі яшчэ жывых, і кроў пырскала ўверх струменямі ды залівала іх. Кроў сплывала на зямлю, стаяла ў разорах, крывёю былі залітыя ахвяры трагедыі і іхнія каты...

Колькі нявінных сталіся ахвярамі Дарогі Смерці? Павел Кожух, якому пашанцавала выжыць і потым з'ехаць у Польшчу, напісаў успаміны, што былі апублікаваныя ў газеце "Жычэ Варшавы":

*"...Чую, як каты бегаюць па шашы ды злічваюць: 1778-ы. І на гэтай лічбе спыняюцца. Была гэта самая высокая лічба, якую я пачуў".*

А колькі дзясяткаў, а то і сотняў, засталося ляжаць забітымі па ўсёй Дарозе Смерці Беразвечча-Ула!



Мікалаёва. Тут пахаваныя нявінныя ахвяры крывавай расправы чэкістаў над вязнямі беразвецкай турмы НКВД,

## Дарога Смерці: сведчанні нешматлікіх сведкаў, якія цудам змаглі ўратавацца ад смерці падчас расстрэлу, схаваўшыся пад трупамі ці ў канавах

**Павел Кожух,** колішні член кампартыі Заходняй Беларусі, які за сваю дзейнасць адседзеў у польскай турме ў Бярозе-Картузскай: *"Мы ішлі насустрач сонцу, якое штораз больш паліла і ўзмацняла смагу. Глыток вады – гэта была мара, аб якой не можна было думаць. Ішлі мы нашча. Голад круціў кішкі... Гналі нас перад сабой і загадвалі часта падаць, калі наляталі самалёты... Па тых, хто варушыўся, канваіры стралялі..."*

**Міхал Баговіч:** *"25 чэрвеня раніцой выбухнуў бунт з прычыны голаду і смагі. Людзі дамагаліся вады. Некалькі асобаў ізноў уцякло ў лес на адлегласць 50 - 100 метраў У такія хвіліны гучала: "Ложись!" Не можна было падняць галавы. Былі чутны стрэлы і пагоні з сабакамі па лесе, калі толькі сціхла, зноў ішлі. У той дзень два разы праляцеў над намі самалёт, па шуму матора здагадваліся, што нямецкі."*

**Павел Кожух:** *"...ужо ледзьве рухаемся. Нашы канваіры таксама ледзь ідуць... Калона скарачаецца... ратуе аднак мяне тое, што маю толькі 32 гады, жалезнае здароўе і моцную волю. Каторыя суткі маршыруем, бадай што на астатнім дыханні рухаемся, бедныя сабакі таксама ўжо вывесілі языкі і не вурчаць на нас... Ніхто і нішто не можа прыспешыць нашага руху, а ні біццё, а ні аўчаркі. Калона складалася ўжо толькі з нядаўна арыштаваных ці маладых вязняў, рэшта засталася на дарогах і ў прыдарожных равах. Ішоў у сярэдзіне калоны... далей – ад пабояў, сабакі і чалавека, страшнейшага за ўсялякага сабаку... Ішоў босы, бо боты паранілі мне ногі, і скінуў іх..."*

Быў сонечны ранак 26 чэрвеня. Калона дасягнула мястэчка Ула над Дзвіной.

**Міхал Баговіч:** *"Выйшлі мы на драўляны мост праз вялізную Дзвіну. З пераду калоны некалькі асобаў скочыла ў раку. Нягледзячы на тое, што ўмелі плаваць, іх даганялі кулі... Жыхары таго мястэчка крычалі: "Таварышы, дакуль праводзіце гэтых бандытаў, польскіх свіней. Біць іх на месцы!"*

● Спадарства, Вам не нагадвае гэта сённяшнюю шалёную расейскую антыўкраінскую прапаганду па тэлебачанні?

Рабочых, лекараў, сялянаў у калоне вязняў – нашых глыбоцкіх і шаркоўшчынскіх людзей – жыхары Улы шчыра лічылі *"бандытамі і польскімі свінямі"*, гэтак, як сёння жыхары Расіі лічаць увесь украінскі народ *"фашыстамі і бандэраўцамі"*. А некаторыя ж схапіліся за зброю ды паехалі ва Украіну забіваць...

**Міхал Баговіч:** *"І раптам жудасны гук, як сотня молатаў секлі з кулямётаў. У галаве калоны, спераду пачуліся страшныя крыкі, паміж іншых чулася: "Браты, у нас страляюць!"*

**Павел Кожух:** *"Я, кіраваны інстынктам, не падаў на праезную частку, а ўздоўж рову Калі серыя з кулямёта працяла паветра, скаціўся ў роў і кулі ішлі нада мной, гэтым часам быў у бяспечным месцы... Ляжаў дагары, а нада мной свісталі хмары куль. Кулямёты, як раптам забрахалі, так раптам і змоўклі... Хто паказваў знакі жыцця... быў дабіты з рэвальверу, ці праткнуты штыком. Да мяне паміж камянямі тачылася чорная змейка крыві, ад якой ішла пара. Працягваю да яе руку, мажу шчаку і ляжу далей, прыслухоўваючыся..., вакол мяне зрабілася ціха... Чуў, як калоцица сэрца.., ніхто да мяне не падыходзіў. Завалілі мяне кучай трупаў ...урэшце скінуў труп, які мне найбольш перашкаджаў... Уцякаў праз сябе ў бок сцяны лесу. Дзесь з тылу чуваць карабінавыя стрэлы, інстынкт падказаў мне, што гэта стралялі ў мяне".*

# Германавіцкі бульбяны калейдаскоп

**Фэст пад такой назвай адбыўся ў Германавічах, што ў Шаркоўшчынскім раёне, у суботу 27 чэрвеня.**

■ **Алена Капшуль**, *тэкст;* **Таццяна Смоткіна**, *фота*

Свята было арганізавана культурна-асветніцкім Цэнтрам імя Язэпа Драздовіча сумесна з Беларускай асацыяцыяй журналістаў. Сярод удзельнікаў свята былі мясцовыя жыхары, госці з Шаркаўшчыны і раёна, а таксама журналісты з Глыбокага, Полацка і Віцебска.

Ідэя правесці такое свята зыходзіла ад Ады Райчонак, кіраўніка Цэнтра. Паводле яе слоў, такое мерапрыемства ладзіцца ці не ўпершыню ў краіне. У далейшым плануецца праводзіць яго кожны год. Праўда, адзначаць яго плануецца, як і належыць, восенню, калі беларусы збіраюць ураджай гэтай культуры.

Нягледзячы на тое, што гэта культура масава вырошчваецца ў Беларусі адносна нядаўна – менш за два стагоддзі, – яна трывала ўвайшла ў жыццё беларуса. Цяжка ўявіць сучасную беларускую кухню без бульбы. Калі ўзгадваецца беларуская кухня, то першае, што прыходзіць у галаву – гэта дранікі. Дарэчы, на свяце ў Германавічах іх было шмат, смажылі іх увесь час, і яны былі вельмі даспадобы ўдзельнікам фэсту.

На свяце чыталіся вершы пра бульбу, загадваліся пра яе загадкі, спяваліся песні. Госці маглі пакаштаваць розныя стравы з бульбы, якіх на фэсце было шмат.

Журналісты з Глыбокага арганізавалі конкурс сярод удзельнікаў свята, каб спраўдзіць, наколькі госці ведаюць гісторыю і геаграфію Глыбоччыны. Пераможцам пашанцавала атрымаць прызы: паштоўкі з відамі Глыбокага, магніцікі, а таксама кніжку Отана Гедэмана «Глыбокае».

Госці свята змаглі пачуць цудоўныя спевы беларускіх бардаў – Таццяны Матафонавай і Георгія Станкевіча. Спадзяёмся, што гэта свята, якое стала першым, будзе не апошнім.

Нагадаем, што бульбу пачалі масава вырошчваць у Беларусі ў XIX стагоддзі. Яна трывала заняла лідзіруючае становішча ў рацыёне беларуса, выцесніўшы рэпу і бручку. Ніжэй прыводзім два цікавыя факты пра бульбу.



Госці частуюцца стравамі з бульбы.



Здымак на памяць з першага бульбянога фэсту.





Таццяна Смоткіна ўручае прыз Уладзіславу Ляскоўскаму.

## Беларусы лідзіруюць

Беларусаў дражняць «бульбашамі» за празмерную любоў да бульбы. І сапраўды, беларусы займаюць першае месца ў свеце па спажыванню бульбы. У сярэднім за адзін год беларус з'ядае 183 кг бульбы, немец – 168 кг, бельгіец – 132 кг, паляк – 123 кг. Жыхары суседняй Расіі спажываюць толькі 90 кг бульбы ў год у разліку на аднаго жыхара. Як бачым, каментарыяў тут не трэба. Таму не выпадкова ў Мінску ёсць музей бульбы, і нават помнік бульбе.

## Як з'явіліся чыпсы?

Джордж Крам быў кухарам аднаго амерыканскага рэстарана, асноўнай стравай у якім была бульба-фры. У 1853 годзе разгневаны наведвальнік вярнуў порцыю бульбы кухару, сказаўшы, што той занадта тоўста яе парэзаў. Джордж таксама прыйшоў у гнеў і ў адплату кліенту парэзаў бульбу так тонка, як толькі мог, а затым падсмажыў. Так з'явіліся чыпсы. Менавіта яны і сталі фірмовай стравай гэтага рэстарана.




Адзін з плакатаў, што былі на свяце.

# Браслаўская батлейка наведала Паставы

**Па запрашэнні Пастаўскай раённай арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" 24 чэрвеня Паставы наведала батлейка "Бэнд Станчыкі" з Браслава.**

■ **Зміцер Лупач**

Госці з Браслава прыехалі ў Паставы ў другі раз. Мінулы раз яны выступалі ў зале Пастаўскага краязнаўчага музея, і выступ гэтага маленькага калектыва ўсім прысутным вельмі спадабаўся.

На гэты раз браслаўскія артысты-лялечнікі выступілі перад дзецьмі да 15 гадоў, якія знаходзяцца ў лагеры адпачынку пры пастаўскім касцёле. Вядучая прадстаўлення, навуковы супрацоўнік Браслаўскага музейнага аб'яднання Ганна Базарэвіч распавяла прысутным гледачам пра гісторыю ўзнікнення і развіцця батлейкі на Беларусі і нашым рэгіёне. Затым адбылося прадстаўленне, якое складалася з трох частак: "Цар Ірад", "Пра цыган і салдата", "Паданне пра Браслаў".

Пасля спектакля артысты правялі дзве інтэрактыўныя гульні, якія вельмі спадабаліся дзецям. Яны былі вельмі задаволеныя і не хацелі адпускаць браслаўскіх артыстаў. Для дзяцей і артыстаў быў зроблены салодкі стол з кавай, гарбатай і цукеркамі. Прысутныя выказалі надзею, што браслаўскія артысты яшчэ не раз наведаюць Пастаўшчыну, каб пацешыць гледачоў сваёй выдатнай ігрой.



# Лынтупы рыхтуюцца адзначыць 630-годдзе

■ **Зміцер Лупач**

**27 чэрвеня ў рамках праграмы "Школы Залатога ўзросту" ў Лынтупах адбыліся заняткі секцыі па краязнаўству ў форме круглага стала-кола.**

Акрамя мясцовых жыхароў удзельнічала некалькі мінчан-дачнікаў, лецішчы якіх знаходзяцца ў ваколіцах гэтага мястэчка. Вядучым быў Алесь Гарбуль – вядомы лынтупскі краязнаўца.

Акрамя краязнаўчых навін прысутныя актыўна абмяркоўвалі планы сумеснай дзейнасці па актывізацыі насельніцтва для занятку агратурызмам, стварэннем турыстычнай інфраструктуры і аднаўленню народных промыслаў. Абмяркоўвалася стварэнне свайго турыстычнага брэнда, а таксама планаваліся мерапрыемствы, прысвечаныя 630-годдзю ўзгадвання Лынтуп у пісьмовых крыніцах (1385 год).



■ А.А. Баброўская,
*пам. урача-гігіеніста.*

# Паспрабуйце абараніць сябе ад нападу кляшчоў!

**Укус кляшча каварны тым, што чалавек яго практычна не адчувае, бо, праколваючы сваім хабатком скуру, клешч уводзіць разам са слінай абязбольвальнае рэчыва. Толькі на другі – трэці дзень месца ўкусу становіцца злёгку адчувальным.**

Збіраючыся ў лес, на пікнік паспрабуйце абараніць сябе ад нападу кляшчоў: надзеньце светлае адзенне з доўгімі, шчыльна прылеглымі да запясця рукавамі; штаны запраўце ў шкарпэткі; абавязкова надзеньце галаўны ўбор; апрацуйце адзенне рэпелентамі якія адпужваюць кляшчоў, праводзьце сама і ўзаемаагляды. Агледзьце і хатніх гадаванцаў, з якімі вы наведвалі лес.

Клешч прысмоктваецца не адразу, учапіўшыся за адзенне, ён паўзе ўгару ў пошуках месца для "трапезы".

**Алгарытм дзеянняў пры ўкусе кляшча:**

**1.** Пры ўкусе кляшчом неабходна як мага раней (у першыя 1 - 2 сутак) звярнуцца ў лячэбную ўстанову.

**2.** Пры немагчымасці звароту ў медыцынскую ўстанову можна выдаліць кляшча самастойна. Зручней усяго выдаляць выгнутым пінцэтам ці хірургічным зацiскам. Кляшча захопліваюць як мага бліжэй да хабатка. Затым яго акуратна пацягваюць і пры гэтым круцяць вакол сваёй восі ў зручны бок. Праз 1-3 павароты клешч вымаецца цалкам разам з хабатком. Можна выдаліць кляшча пры дапамозе ніткі, завязаўшы вузельчык вакол часткі кляшча, якая ўпілася. Асцярожна, пацягваючы канцы ніткі ўгару і ў бакі, выцягнуць яго.

**3.** Пасля выдалення ранку апрацоўваюць ёдам, спіртам ці іншымі спіртазмяшчальнымі прэпаратамі. У далейшым ранка апрацоўваецца ёдам да гаення.

**4.** Кляшча, які прысмактаўся, у выпадку магчымасці яго даследавання, варта захаваць у шчыльна зачыненым флаконе (папярэдне паклаўшы вільготны кавалачак ваты ці свежую травінку) з мэтай вызначэння заражанасці кляшчавымі інфекцыямі. Хуткім часам неабходна звярнуцца ў лячэбную ўстанову да ўрача – інфекцыяніста ці ўчастковага тэрапеўта, педыятра для атрымання медыцынскай консультацыі абправядзеннілабараторных даследаванняў і прафілактыкі інфекцый, якія перадаюцца пры ўкусе кляшчом.

**5.** Пасля ўкусу кляшчом на працягу месяца неабходна назіраць за станам здароўя і пры падвышэнні тэмпературы ці з'яўленні галаўнога болю, слабасці неадкладна звярнуцца да ўрача, паведаміўшы пра факт прысмоктвання кляшча.



# Ізноў пад ЛЭП загінуў рыбак!

**Як не сумна, але сярод насельніцтва працягваюць адбывацца няшчасныя выпадкі пры лоўлі рыбы на вадаёмах, змешчаных паблізу паветраных ліній электраперадач. "Энерганагляд" папярэджвае аб тым, што рыбалка ў ахоўнай зоне паветраных ліній электраперадачы (ЛЭП) забароненая.**

■ А.Н. Ішуцін,
*інспектар Глыбоцкага МРА "Энерганагляд".*

Правіламі ўсталёўваюцца ахоўныя зоны электрычных сетак да 10 м ад праекцыі крайняга провада на зямлю для ЛЭП 10 кВ, 15м для ВЛ-35 кВ і 20 м для ВЛ-110 кВ.

Чарговы няшчасны выпадак адбыўся 07.06.2015 г. на бетонным аўтамабільным масце праз раку Шчара ў Ляхавіцкім раёне Брэсцкай вобласці. Пацярпелы К. 1982 г.нр., стоячы на масце і абапіраючыся на металічную агароджу, закідваў у раку вуду з вугляпластыкавым вудзільнам даўжынёй каля 4.5 метра. Пры гэтым адбылося набліжэнне вудзільна да правадоў ВЛ-10 кв на недапушчальную адлегласць і параза пацярпелага электрычным токам. Выкліканая сведкамі здарэння хуткая медыцынская дапамога канстатавала смерць пацярпелага К.

7.06.2015 г. двое мужчын ажыццяўлялі лоўлю рыбы ў вадаёме з надзіманай гумовай лодкі ў 20 метрах ад берага пад праводамі ВЛ-110 кв "Столбцы-Залужжа", якая перасякала возера. Пры набліжэнні вуды на недапушчальную адлегласць да праводоў ВЛ-110 кв адбылася параза мужчын, якія знаходзіліся ў лодцы, электрычным токам. Сведкамі адбытага няшчаснага выпадку была выкліканая брыгада хуткай дапамогі, якая даставіла пацярпелых у ЦРБ г. Столбцы.

**Паважаныя рыбакі,** звярніце ўвагу, што на апорах ЛЭП паблізу вадаёмаў змешчаны папераджальныя ці забараняльныя плакаты: "Лоўля рыбы забаронена", "Ахоўная зона ЛЭП" ці інш., якія інфармуюць пра небяспеку. Гэтыя плакаты працаўнікамі РЭС абнаўляюцца штогод. Папярэджваючы пра небяспеку, энергетыкі спрабуюць выратаваць вам жыццё. Будзьце і вы ўважлівыя. Падыходзячы да ЛЭП любой напругі, неабходна памятаць пра ахоўную зону і пераканацца, што на шляху няма правадоў, якія правіслі ці абарваныя. Пры іх выяўленні варта арганізаваць ахову месца пашкоджання, папярэдзіць усіх атачальных пра небяспеку набліжэння на адлегласць меней 8-10 м і неадкладна паведаміць аб пашкоджанні ў РЭС на тэлефон: 2-62-41 ці 101 у РАНС.

Перад тым, як раскласці вуду ці іншыя снасці і зрабіць іх закід, пераканайцеся ў тым, што вы знаходзіцеся ў бяспечным месцы, па-за зонай ЛЭП. Звычайна адлегласць ад найбліжэйшых правадоў да зямлі ці воднай роўнядзі вадаёма 6-10 метраў, а даўжыня вудзільна з абсталяваннем перавышае дадзеныя адлегласці ў некалькі разоў. Таму верагоднасць патрапіць пад напругу і ўздзеянне электрычнага току ўзрастае шматкроць. Парой нават няма прамога кантакту з токаводнымі часткамі ЛЭП, а, наблізіўшыся на недапушчальную адлегласць да іх, можна падвергнуць сябе і атачальных уздзеянню электрычнага току.

Уяўляе небяспеку рыбная лоўля пры набліжэнні ці падчас навальніцы, бо вугляпластыкавыя вудзільны і мокрыя лёска з абсталяваннем з'яўляюцца добрым праваднікам электрычнага току.

**Беражыце сваё жыццё!**




# Браканьеры ўжо зусім расперазаліся! На вачах інспекцыі ставяць сеткі!

■ Аляксей Протас,
*начальнік Глыбоцкай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

За 6 месяцаў 2015 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету выяўлена 139 правапарушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, па 8 матэрыялах следчымі органамі МУС у стаўленні парушальнікаў узбуджаныя крымінальныя справы. У парушальнікаў канфіскавана 19 браканьерскіх сетак, агульнай даўжынёй 1 км. 300 метраў, 17 адзінак іншых браканьерскіх прыладаў рыбалоўства, 115 кг. незаконна здабытай рыбы, 6 адзінак агнястрэльнай зброі, 2 адзінкі зброі не зарэгістраваных, 1040 кг. незаконна здабытага мяса дзікіх жывёл, 3250 $м^3$ незаконна нарыхтаванай драўніны. Усе парушальнікі панеслі пакаранне. За прычыненую шкоду, навакольнаму асяроддзю парушальнікам прад'яўлена больш 300 млн. рублёў урону, які пакрыты ў поўным аб'ёме.

Штомесяц раённыя суды прыцягваюць да адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці дзясяткі парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства.

12 чэрвеня 2015 года каля 17 гадзін супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі сумесна з супрацоўнікамі АДАІ Браслаўскага РАУС затрыманы чацвёра жыхароў г.п. Варапаева Пастаўскага раёна, якія броднікам ажыццяўлялі здабычу рыбы на рацэ Палавіца. Парушальнікі здабылі 70 асобінаў розных відаў, вага рыбы зусім не вялікая, няшмат больш за 1 кг., але сума прычыненай шкоды, склала 22 млн. 770 тысяч рублёў і ўзбуджэнне крымінальнай справы. Парушальнікі ўрон пакрылі і чакаюць рашэння раённага суда.

15 траўня 2015 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на возеры Уклейна Ушацкага раёна затрыманы мясцовы жыхар, грамадзянін Кандрацкі Аляксандр Іванавіч, які наўпрост на вачах інспектараў усталяваў сеткі, але быўшы затрыманым са здабычай, нават з прад'яўленымі яму відэаматэрыяламі сваю віну не прызнаў, у раённы суд не з'явіўся. Вынік, штраф у памеры 5 млн. 400 тысяч рублёў. У 2013 годзе інспектары ўжо затрымоўвалі згаданага грамадзяніна за парушэнне прыродаахоўнага заканадаўства.

19 чэрвеня 2015 года на возеры Чачалі інспектарамі былі затрыманыя двое жыхароў Глыбоцкага раёна, якія ажыццяўлялі здабычу рыбы сеткамі, адзін з затрыманых стаяў на так званым "шухеры", а другі даставаў сеткі, але гэта не дапамагло парушальнікам сысці ад адказнасці. Раённы суд вынес пакаранне ў выглядзе штрафу, больш за 5 млн. рублёў кожнаму. А таксама парушальнікам неабходна пакрыць урон за вылаўленую рыбу ў памеры 9 млн. 540 тысяч рублёў. Сапраўды, рыбка стала залатая.

Нягледзячы на строгія меры адказнасці за браканьерства, на жаль, колькасць парушальнікаў штогод нязначна памяншаецца, але прагрэс у лепшы бок ёсць.

Аналіз наяўнай у міжрайінспекцыі інфармацыі дае падставы меркаваць, што хуткім часам будуць затрыманы яшчэ не адзін дзясятак парушальнікаў, якім закон яшчэ пакуль не пісаны, але спадзяемся, што пасля затрымання і прыцягнення да адказнасці, яны вывучаць закон вельмі добра.

Пра ўсе факты браканьерства Вы можаце паведаміць на тэлефон "гарачай лініі" Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 8-02156-28670, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

# Прыцягнута да адказнасці больш за 50 чалавек і больш за 100 папярэджаныя

■ А.Г. Абрамчык,
*дзяржінспектар Глыбцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Ліпень-верасень – месяцы збору ўраджая. Нягледзячы на тое чэрвень выдаўся не вельмі спякотным, у лясах спеюць ягады: чарніцы, маліны, расце брусніца, журавіны, хутка пачнуць расці грыбы і людзі карыстаюцца дарункамі лесу ў поўным аб'ёме.

Штогод рашэннем Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта усталёўваюцца тэрміны збору ягад журавін і брусніцы. Ягады чарніцы, маліны, дурніцы можна збіраць у любы час, але толькі дазволенымі спосабамі і сродкамі, г.зн. рукамі.

Грамадзяне, якія парушалі ўказаныя тэрміны збору ягад брусніцы і журавіны або ажыццяўлялі збор ягад забароненымі метадамі і прыстасаваннямі (грабяньцы, камбайны і г.д.), будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці па ч.2 арт. 15.26 Ко АП РБ, якая прадугледжвае адказнасць у выглядзе папярэджання ці штрафу ў памеры да 20 базавых велічынь, з пакрыццём прычыненага ўрону, за кожны кілаграм сабраных ягад – 2,2 базавых велічыні ці 396 000 рублёў.

У сувязі з насталым гарачым надвор'ем рашэннем Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта ў наш час забаронена наведванне лясоў грамадзянамі, незалежна ад мэты наведвання, у тым ліку і для збору ягад. За парушэнне ўказаных правіл грамадзяне будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці.

Толькі за апошні тыдзень чэрвеня ў вобласці за парушэнне правіл наведвання лясоў у пажаранебяспечны перыяд прыцягнута да адказнасці больш за 50 чалавек і больш 100 грамадзян папярэджаныя кантралявальнымі службамі.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету чарговы раз заклікае грамадзян да выканання прыродаахоўнага заканадаўства.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі дзякуюць грамадзянам за аказаную дапамогу ў працы і неабыякавасць да захавання нашай прыроды.

Тэлефон "гарачай лініі": 8-02156-2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# У Полацку выявілі яшчэ адну аранжарэю з каноплямі

■ Сяржук Серабро

У 44-гадовага беспрацоўнага з Полацка супрацоўнікі праваахоўных органаў знайшлі ў кватэры і на дачы ў вёсцы Гара памяшканні, адмыслова прыстасаваныя для вырошчвання канопляў.

Віцяблянін вырошчваў каноплі ў шафе

У палачаніна, затрыманага супрацоўнікамі УНІПТЛ Віцебскага аблвыканкама, ОНІПТЛ і ОУР РАУС канфіскавана 0,97 грам высушанай марыхуаны, 246 кустоў канопляў і абсталяванне. Узбуджана крымінальная справа па ч. 1 арт. 328 КК, паведамляе прэс-служба МУС.

Як ужо паведамлялася, падобную аранжарэю ў Полацку міліцыянеры выявілі ў красавіку, яе таксама ўладкаваў беспрацоўны.

